# РАДАВАЯ БЕЛАРУСЬ

Чацьвер. 25 сакавіка 1999 году. № 4 (00004)
Наклад 400299. Кошт 10000 талераў

Грамадзка-палітычная газэта
Заснаваная ў студзені 1999 году


# Народзіны Рэспублікі

## (спэцыяльны рэпартаж з 1918 году)

Праз вякі прайшоў беларускі народ да свайго нацыянальнага гаспадарства і ўрэшце адвечная мара барацьбітоў за лепшую долю краю спраўдзілася – 81 год таму, 25 сакавіка 1918 году ў III Устаўнай грамаце да народаў Беларусі была абвешчаная поўная вольнасьць краіны. Але няпростым быў шлях да агалошаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі. Сёньня мы маем магчымасьць данесьці да народу нашае краіны некаторыя, дагэтуль невядомыя факты зь дзён барацьбы за вольнасьць Беларусі.

21 лютага 1918 году Выканаўчы Камітэт I Усебеларускага Кангрэсу пераняў ад немцаў уладу ў Менску і ўва ўсёй Беларусі ды сфармаваў Часовы Ўрад краіны–Народны Сакратарыят на чале зь Язэпам Варонкам і Парлямэнт–Раду Рэспублікі ў галаве зь Янкам Серадам. 9 сакавіка Беларусь была абвешчаная Народнай Рэспублікай у складзе Расейскае Фэдэрацыі, аднак гэнае было толькі часовым, бо ўжо йшла праца да абвяшчэньня Беларусі самастойнаю дзяржавай.

Увечары 24 сакавіка сабралася на паседжаньне Рада Рэспублікі з мэтаю абвясьціць незалежнасьць Беларусі. Да поўначы аднак гэтае пытаньне не было разьвязанае. Супроць поўнае вольнасьці дзяржавы выступалі жыдоўскія буржуі й расейскія капіталістыя, што ўсяляк шкодзілі працы Рады й пагражалі выйсьці зь ейнага складу ў выпадку хады падзеяў да падтрыманьня прапазыцыі фракцыі Грамады. Грамадоўцы выступалі за разарваньне ўсялякіх дзяржаўных хаўрусаў з Расеяй ды аднаўленьне дзеяньня Статуту 1588 году. Жыдоўскія й расейскія абшарнікі, натуральна, аніякае карысьці ад гэнага ня мелі, бо ў іхнай уласнасьці былі сотні фабрыкаў, заводаў і банкаў ад Беластоку да Смаленску, што пераходзілі б, у выпадку падтрыманьня грамадоўскае прапановы, у дзяржаўны скарб. Асабліва нэрваваўся дэпутат Хайм Шмэнкель, які бажыўся Яхвам, што наладзіць action самаспаленьня ўсяго няміскага кагалу, калі будзе абвешчаная незалежнасьць. Аднак у гэны час была праведзеная добра сплянаваная дэманстрацыя жыдоўскіх месьцічаў Менску, якія патрабавалі пазбавіцца ад прыгнёту маскалёў, што змушалі іх цягам стагодзьдзяў выкупляць грэх за ня імі забітага Ісуса–"русскаго Бога". Дэманстрацыя прайшла пад лёзунгам "Жыды за вольную Беларусь без кацапаў!", а па ейным заканчэньні на пляцы Волі была ўхваленая рэзалюцыя да Рады абвясьціць поўную незалежнасьць БНР. Мітынгоўцы пазбавілі буржуя Шмэнкеля мандату й перадалі яго свайму нацыянальнаму песьняру Шмулю Плаўніку (Зьмітраку Бядулю), а жыдоўская фракцыя перайшла на пазыцыі Грамады.



*Мітынг на пляцы перад домам Ураду Рэспублікі ў дзень 25 сакавіка 1918 году*

А 23 гадзіне расейская фракцыя пад ціскам большасьці гэтаксама мусіла згадзіцца на прыняцьцё незалежніцкае дэклярацыі, пратэставаў толькі дэпутат Самойлаў з чатырма чарнасоценцамі, якія добраахвотна здалі свае мандаты.

Апоўначы быў зроблены перапынак і парлямэнтары пайшлі на імшу ў Катэдральны касьцёл, дзе добра памаліліся за Беларускі народ, Народны Сакратарыят і Раду Рэспублікі.

А 2 гадзіне ўначы 25 сакавіка распачалося найдаўжэйшае паседжаньне, што сталася вызначным пунктам у дзяржаўным будаўніцтве краіны. Пасьля ўрачыстага сьпеву дзяржаўнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", выступіў з прамоваю сьпікер Рады Янка Серада. Вось што ён сказаў: "...Досыць цярпелі мы прыгнёт расейскага арла ды польскае курыцы (...) апусьцім галовы, зірнем у праграму паседжаньня, і прачытаем: "6. 00–ухвала Граматы аб незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі й разарваньні фэдэрацыйных стасункаў з Расеяй". Дык надрыхтуйцеся маральна, хто ня верыць, што ўзыход сонейка мы сустрэнем у вольным краю (...) Жыве незалежная сялянская Беларусь у зьвязе з народнымі дэмакратыямі Эўропы!" З надрабязным дакладам перад парлямэнтам гаварыў стар-

працяг на старонцы 2



## Першы Ўрад БНР

Зьлева направа сядзяць:
**консул БНР у Маскве** Алесь БУРБІС,
**Старшыня Рады Рэспублікі й народны сакратар гаспадаркі** Янка СЕРАДА,
**Старшыня Народнага Сакратарыяту й народны сакратар міжнародных справаў** Язэп ВАРОНКА,
**дзяржаўны скарбнік** Васіль ЗАХАРКА.

стаяць:
**народны сакратар асьветы** Аркадзь СМОЛІЧ,
**народны сакратар кантролю** Пятро КРЭЧАЎСКІ,
**народны сакратар абароны** Кастанцін ЕЗАВІТАЎ,
**сябра Народнага Сакратарыяту** Антон АЎСЯНІК,
**прэс-сакратар Народнага Сакратарыяту** Лявон ЗАЯЦ.

# Народзіны Рэспублікі

## (спэцыяльны рэпартаж з 1918 году)

пачатак на старонцы 1

шыня Народнага Сакратарыяту Язэп Варонка: "Эканамічна Беларусь здольная да забесьпячэньня ўсіх сваіх пэтраных патрэбаў і таму няслушнае сьцьверджаньне расейскае фракцыі наконт нядольнасьці Рэспублікі існаваць без маскоўскае апекі. Мы разам з сакратарыятам фінансаў вывучылі ўсе паказьнікі й прыйшлі да высновы, што 34 адсоткі нашае прадукцыі можна экспартаваць (...) У траўні маскоўскі рубель замяняецца на талер у тасунку 1:1 да ангельскага хунту (...) Учора на паседжаньні была ўхваленая праграма ўзросту дабрабыту люду, адоленьня наступстваў вайны й выхаду да канца году на паказьнікі 1914 году (...) Урад мяркуе, што абвяшчэньне незалежнасьці ад Расеі будзе з усіх бакоў карысным для нашага народу й паспрыяе спыненьню рабаўніцтва з таго боку граніцы нашых намежных абшараў. Слава Рэспубліцы!"

Пасьля ўнясеньня дробных паправак да прапанаваных дакумэнтаў, пачалося галасаваньне. 154 дэпутаты парлямэнту аднагалосна ўхвалілі тэкст III Устаўное граматы Беларускае Народнае Рэспублікі й а 6 гадзіне ўраньні, калі веснавое сонейка сагрэла сваімі промнямі сяроднявечныя муры залі паседжаньняў Рады, Беларусь сталася вольнаю й незалежнаю Рэспублікай. Грамата абвяшчала роўнасьць грамадзянаў і скасаваньне станаў, перадачу зямлі сялянам і усталёўвала 8-гадзінны працоўны дзень. Да прыняцьця 11 кастрычніка 1918 году Канстытуцыі Рэспублікі за часовы Асноўны закон краіны ўважаўся Статут 1588 году з зьменамі й папраўкамі. Дзяржаўны герб "Пагоня" й бел-чырвона-белы сьцяг залуналі ля нашых амбасадаў і консулятаў ува ўсім сьвеце.

Неўзабаве з Масквы была атрыманая рэакцыя на Ўстаўную грамату. Галава Маскоўшчыны Ўладзімер Улянаў прызнаў незалежнасьць Беларусі, аналягічныя заявы на працягу тыдню наступалі ў камяніцу на Пляцы Волі з усяго сьвету. Толькі Чукоцкая імпэрыя адмовілася прызнаваць БНР з спасылкаю на тое, што не прымае гэткае формы дзяржаўнага ладу як рэспубліка; гэтаксама Жамойць прызнала нашую Рэспубліку толькі пасьля паразы ў вайне 1920 году, калі нашыя войскі спалілі сталіцу лабусаў Коўна й змусілі падпісаць мірную дамову, у якой тыя да скону сьвету адмаўляліся ад прэтэнзіяў на крывіцкую Вільню.

Вынікі працы Народнага Сакратарыяту Беларусі ад сакавіка да лістападу 1918 году, калі быў скліканы Ўстаноўчы Сойм, зьдзіўляюць: ВНП перавысіў паказьнікі 1914 году ў тры разы, быў адчынены Унівэрсытэт, Філярмонія, Пэдагагічны інстытут, блізу 2,5 тысячаў школак, нацыянальная валюта талер займела сталы курс і прызнаньне за вольна канвэртаваныя грошы ўва ўсім сьвеце. У амбасады БНР пацягнуліся людзі, ахвочыя стаць грамадзянамі Радавае Беларусі. Краіна сталася вольнаю!

Падваліны нашае незалежнае дзяржавы, закладзеныя 25 сакавіка, на сьвята Зьвеставаньня, прынесьлі ў наш край насамрэч добрую вестку — Беларусь заняла свой пачэсны пасад між эўрапейскімі нацыямі і Сакавіковы Акт будзе вечна асьвятляць наш шлях да сьветлае будучыні.

"Радавая Беларусь" віншуе сваіх чытачоў з усяго сьвету зь вялікім сьвятам Беларускага народу — Днём Волі, і прысягае надалей дбаць пра інтарэсы Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

## У КРАІНЕ

### КОЛЬКІ ВАС?

Ці шмат хто ставіў перад сабою гэтае пытаньне. Колькі Вас і колькі чаго маеце: вачэй, вушэй, рук, ног, ды іншых частак цела. Менавіта пра гэта будуць пытацца ў кожнага грамадзяніна Беларусі на Ўсенародным попісе насельніцтва, што працягнецца ад 25 сакавіка да 26 красавіка. Гэтаксама ў блянку, у адпаведнасьці з рэкамэндацыямі Міністэрства нацыянальнага й сэксуальнага здароўя, меншмене запатаваць сваё нацыянальнае паходжаньне й групу крыві. Пытаньня аб мове ў блянку ня будзе: зразумела, што беларусы размаўляюць на-беларуску.

Самая пільная ўвага будзе нададзеная колькасьці дзетак у сем'ях дзеля карэгаваньня Дзяржаўнага пляну Рэспублікі па ўзросту ў геамэтрычнай прагрэсіі колькасьці беларусаў. У зьвязку з штогадовым павелічэньнем тэрыторыі нашае краіны праз жаданьне намежных абшараў зьбеларусіцца, трэба выпрацаваць схему асыміляцыі наших суседзяў.

Ступень адукаванасьці кожнага беларуса будзе спраўджвацца праз выпыт на абазнанасьць з кнігаю Вацлава Ластоўскага "Што трэба ведаць кожнаму беларусу". Гэты мэтад адначасова дазволіць высьветліць, колькі небеларусаў у БНР. Жыхаром Шклоўскага жыдоўскага аўтаномнага павету давядзецца пераказваць зьмест працы Зьмітрака Бядулі "Жыды на Беларусі", выдадзенае ў 1918 годзе Народным Сакратарыятам Рэспублікі. Апошняе пытаньне попісу: "Ці чытаеце газэту "Радавую Беларусь" і зь якога году?"

Кожны апытаны мусіць быць сумленным падчас запаўненьня анкеты й памятаць, што ад ягоных словаў залежыць будучыня Беларускае Народнае Рэспублікі ды яйнага дабрабыту.

## Трэцяя Ўстаўная Грамата Рады БНР



Год таму народы Беларусі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь, не пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, што чыста зруйнавала гарады й вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, гвалтам накінутае праз расейскіх цароў на наш вольны й незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю й вольнаю дзяржаваю. Самыя народы Беларусі ў абліччы Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязах Рэспублікі. На моцы гэтага касуюцца ўсе старыя дзяржаўныя зьвязы, што забівалі на сьмерць беларускі народ, дзелячы ягоную зямлю на часткі.

Беларуская Народная Рэспубліка ўлучае ўсе землі, дзе жыве й мае лікавую перавагу беларускі народ, а ўласна: Магілёўшчыну, Меншчыну, Гарадзеншчыну (зь Беластокам), Віленшчыну, Віцебшчыну, Смаленшчыну ды сумежныя беларускія абшары.

Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе правы й вольнасьці грамадзянаў і народаў Беларусі, што былі абвешчаныя II Устаўной Граматай

*м. Менск 25 сакавіка 1918 году*

РАДАВАЯ БЕЛАРУСЬ
Заснавальнікі — Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі й Рэдакцыйная Рада
*Наш адрас: 220030, Менск а/с 169*
Галоўны рэдактар
Паўлюк Я. КУБЭ